


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (282) ЛЮТЫ 2020 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*І толькі той, хто будзе многа любіць і многа ведаць, зможа зрабіць нямала.*

*Янка Брыль*

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ПРАЗ СВАБОДНЫЯ І АДКРЫТЫЯ ВЫБАРЫ ДА ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

**У 2020 годзе Беларусі наканавана прайсці праз прэзідэнскую выбарчую кампанію. З улікам складанасцей атрымання краінай энерганосьбітаў, жаданнем Расіі "паглыбляць інтэграцыю" ход і вынікі гэтай кампаніі значна вышэйшыя для лёсу беларускай дзяржавы, чым у папярэдніх кампаніях.**

Выбары ў цывілізаваных краінах гэта найперш магчымасць для выбаршчыкаў або пагадзіцца з існуючай уладай у яе дзейнасці, або даць мандат на кіраванне яе апанентам. І выбары гэта не канцэрты і буфеты з таннымі прадуктамі на выбарчых участках, а канкурэнцыя розных кандыдатаў з камандамі ў медыйнай прасторы, на агітацыйных мерапрыемствах за галасы выбаршчакаў.

І галоўнае выбары гэта падлік кожнага бюлетэня ва ўмовах, якія выключаюць сумненні ў праўдзівасці гэтага падліку. Такое дасягаецца праз магчымасць кожнаму члену камісіі і кожнаму назіральніку бачыць кожны бюлетэнь. Гэта значыць дзейнічае прынцып "Тры К": кожны член, кожны назіральнік, кожны бюлетэнь. Гэтую умову забяспечваюць камісіі складзеныя як з прадстаўнікоў улады, так і іх апанентаў.

Толькі вось практыка ажыццяўлення выбарчых кампаній на Беларусі далёкая ад гэтых міжнародных стандартаў, бо вядзецца па беларускаму заканадаўству. Гэтае заканадаўства дазваляе маніпуліраваць волевыяўленнем выбаршчыкаў, бо ўтрымлівае магчымасці для махлярства. Такія магчымасці маюцца пры фармаванні камісій, пры вядзенні выбарчай агітацыі, так і пры датэрміновым галасаванні, захаванні бюлетэняў, галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыка і галоўнае пры падліку галасоў, калі адбываецца маніпуляцыя стосамі бюлетэняў.

Гэта засведчылі мясцовыя назіральнікі з кампаніі "Права выбару". Пра гэтыя парушэнні і рэкамендацыі па іх выдаленню пастаянна піша Наглядальная місія АБСЕ. Але і да прэзідэнскай кампаніі гэтага года ўлады па ўсіх папярэдніх назіраннях збіраюцца ісці ў ранейшым стылі. Стылі, які пазбаўляе Беларусь будучыні, пакідае на ўскраўку гісторыі, кідаючы ў абдымкі расійскаму імперыялізму.

Улада моцная, калі яна абіраецца на свабодных і адкрытых выбарах, тады яна мае адпаведную падтрымку большасці народа. Таму ў цяперашніх складаных умовах кіраўнік краіны А.Г. Лукашэнка мае магчымасць праявіць палітычную волю і правесці свабодныя і адкрытыя выбары. Дзеючае выбарчае заканадаўства гэта дазваляе. Праблемныя пытанні па фармаванню выбарчых камісій, вядзенню агітацыі, правядзеню галасавання і падліку галасоў можа быць вырашаны Цэнтрвыбаркамам пад кіраўніцтвам новага старшыні. І ў Аляксандра Рыгоравіча з яго харызмай і досьведам кіравання найлепшыя шанса стаць прэзідэнтам, як гэта было ў далёкім 1994 годзе на адкрытых выбарах.

Вядома, што выбары гэта толькі працэдура абрання кіраўніцтва. Але калі яна будзе праведзена дэмакратычна, то адкрывае магчымасць да рэформаў. Дэмакратычная супольнасць мусіць агітаваць за пабудову на Беларусі прававой дзяржавы. Гэта значыць дзяржавы ў якой будзе рэальны падзел уладаў на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Дзяржавы, у якой будзе рэальная незалежная судовая сістэма і якой будуць дапамагаць свабодныя сродкі масавай інфармацыі і незалежныя медыя рэсурсы. Дзяржавы, у якой будзе сучаснае мясцовае самакіраванне, а грамадзяне і грамадскія арганізацыі будуць прымаць удзел у рашэнні пытанняў на мясцовым узроўні. Дзяржавы, дзе прадпрымальніцтва будзе надзейна абаронена законам, а не "дахам" уплывовага чыноўніка.

Такой дзяржавы, дзе будзе сучасная сістэма адукацыі, якая канкурэнтна ў свеце і будзе уверсе па стандартах PIS. Такой дзяржавы, дзе не будзе крызіснай АЭС, а будзе развівацца "зялёная" энергетыка. Такой дзяржавы, якае не будзе дзесяцігоддзем змагацца за "пяцьсот", а за дзесяцігоддзе дагоніць па заробках сваіх суседзяў. Такой дзяржавы…

Гэтую дзяржаву мусім пабудаваць мы, грамадзяне Беларусі. У гэта я веру. І пачаць такую будоўлю трэба ў 2020 годзе. Для гэтага неабходна палітычная воля аднаго чалавека, які мае вялікую ўладу, каб пачаць рэальныя рэформы, каб застацца ў гісторыі з пазітыўным іміджам.

Так будзе. Раней ці пазней. Калі Беларусь выжыве…

**Леанід Гаравы**
**сябар ЦРК БСДП(Грамада)**



КУЛЬТУРА

# АДРАДЖАЮЦЬ УНІКАЛЬНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ

**Унікальныя тэхналогіі спіральнага пляцення і гарадоцкай кісеі адраджаюць майстры Гарадка. Унікальныя рамёствы, уключаныя ў спіс нематэрыяльных каштоўнасцяў Беларусі, культывуецца ў Гарадоцкім Доме рамёстваў і фальклору.**

— Назва гэтай тэхнікі кажа само за сябе — пляценне ажыццяўляецца ад цэнтра будучага вырабы па спіралі, — паведаміў сябра саюза майстроў народнай творчасці Васіль Сіманковіч. — Першай, хто асвоіў старажытнае занятак у цяперашні час, стала Людміла Гаравая. Яна гадоў дваццаць таму адправілася на вучобу да народнага майстру Беларусі Адаму Краўчука, які растлумачыў ёй нюансы аўтэнтычнага пляцення. Пазней Людміла Генадзьеўна стварыла сваю калекцыю, была ўдастоена стыпендыі Міністэрства культуры за адраджэнне старадаўніх формаў. Мяне ж у спіралі прыцягнула філасофская складнік — творчы працэс нагадвае канцэпцыю стварэння Сусвету.

Падобную тэхніку выкарыстоўвалі многія народы, але ў беларусаў яна адрознівалася разнастайнасцю вырабаў. У прыватнасці, нашы продкі такім чынам выраблялі ёмістасці для захоўвання збожжа, круп, вэнджаніны.

— Так званыя саламянікі накрывалі вечкам і служылі свайго роду тэрмасамі, захоўвала пэўную тэмпературу і вільготнасць. З іншага боку, яны забяспечвалі цыркуляцыю паветра ўсярэдзіне, і правізія ня плеснела, — патлумачыў Васіль Паўлавіч. — Яшчэ адзін плюс — малая вага кораба, які дазваляў без складанасці падвесіць яго пад дахам, каб не дасталі грызуны.

Майстар займаецца спіральным пляценнем з 2007 года. За гэты час паспеў назапасіць вялікі вопыт, сабраць шырокую калекцыю

*(працяг на стар. 2)*

ГАНДАЛЬ

# КОШТЫ Ў ГАРАДКУ

**Прапануем чытачам для параўнання першыя кошты прадуктаў ў трох гарадоцкіх крамах: «Надзеі» па вул. Невельская шашы, «Еўраопце» па вул. Талкачова і дыскаўнцеры «Капеечка» па вул. Пралетарская напрыканцы студзеня 2020 году.**

Па сёняшняму часу ў Гарадку крамаў стала значна больш чым прадпрыемстваў.А колішні манапаліст — Гарадоцкі райспажыўсаюз праходзіць працэдуру банкруцтва.

І існуе магчымасць выбару розных прадуктаў харчавання ў некалькіх розных гандлёвых сетках, не кажучы ўжо пра прыватныя крамы. Былі б толькі грошы!

Але ў правінцыі добрыя грошы толькі ў «сярэднім зарobку». Таму паспрабуем прапаноўваваць сваім чытачам агляды коштаў у розных гарадоцкіх крамах.

Прапануем вам агляд па трох групах прадуктаў.

Першая група прадуктаў аб'ядноўвае муку, макароны і крупу. Па ніжэйшых коштах тут відавочная перавага «Капеечкі», якая мае самыя нізкія кошты па ўсіх відах мукі, макарон і круп. Так, каб абнавіць ці стварыць запісы гэтых відаў прадуктаў трэба накіроўвацца ў «Капеячку»

Другая група прадуктаў датычыцца «Гародніны» і тут ужо няма асаблівага лідарства сярод гэтых трох крам. Наш галоўны прадукт — бульба — мае ніжэйшы кошт у «Надзеі» — 40 капеек, ды і гуркі там былі па кошту ў 2,15 руб. Гэта ў 2,5-3,5 разы менш чым у двух другіх крамах. Але ж не ў гурках шчасце!

Морква і цыбуля наймен кошт мае ў «Еўраопце» адпаведна па 45 і 79 капеяк. А ніжэйшыя кошты па бураках і капусце ў той жа «Капеячкі» — па 49 капеяк. Толькі вось капусты тут у прдажы ў час маніторынгу не было.

Трэццяя група тавараў датычылася малочнай прадукцыі, асартымент якой зараз у крамах зашкалівае. па тварагу,смятане,малаку,кефіру, ёгуртам і г.д.. І найбольшы выбар тут прадстаўляе крама з найбольшай плошчай — «Еўраопт» на Талкачова. Тут маецца ўся лінія малочнай прадукцыі аб беларускіх вытворцаў. Але і ў двух іншых крамах таксама ёсць разнастайная прадукцыя, як асобных пазіцыях танней чым у «Еўраопце».

У сваіх каментарах можаце прапанаваць тыя віды тавараў пра якія жадалі бы ведаць параўнанне коштаў у трох розных крамах Гарадку.

**Ад рэдакцыі:** *кошты на тавары ў Гарадку цяпер штомесячна будуць з'яўляцца на нашым сайце:* ***http://haradok.info***

**Л. Антонаў**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

КУЛЬТУРА

*(пачатак на стар. 1)*
работ, паўдзельнічаць у сотнях выстаў у розных краінах і навучыць дзясяткі вучняў.

— На Гарадоччыне для пляцення традыцыйна выкарыстоўваецца салома і маладыя карані хвоі. Акрамя таго, спатрэбяцца колца, якое рэгулюе таўшчыню нарыхтоўкі, шыльце, якое дазваляе падоўжыць стужачку, якая фіксуе новы віток спіралі з папярэднім. У працэсе патрабуюцца значныя намаганні рук, таму ў старажытнасці гэтым займаліся мужчыны, — сказаў Васіль Сіманковіч. — Сёння да мяне на гуртох у асноўным прыходзяць людзі ва ўзросце. Стараюся прыцягваць моладзь, пераконваю, што ўменне рамесніка дазволіць ім у любой жыццёвай сітуацыі зарабіць грошы. Усе вучні ўдзельнічаюць у нарыхтоўцы матэрыялаў.

Нягледзячы на тое, што спіральным пляценнем цікавяцца майстры ў многіх рэгіёнах краіны, канкурэнцыю гарадакчанам на Беларусі могуць скласці толькі прадстаўнікі Браслава і Верхнядзвінска. У Віцебску таксама ёсць умельцы, але яны выкарыстоўваюць не аўтэнтычныя, а сучасныя тэхналогіі.

Яшчэ адзін напрамак, якім займаюцца ў Гарадоцкім Доме рамёстваў і фальклору, — гарадоцкая кісея. На яе развіццё атрыманы грант Прэзідэнта Беларусі. Асноўны ўклад у адраджэнне некалі забытыя выгляду народнага рамяства ўнесла дырэктар установы Марына Гушчо, захапіўшыся унікальнай тэхнікай.

— Каля трыццаці гадоў таму я працавала ў раённым краязнаўчым музеі і ўдзельнічала ў этнаграфічных экспедыцыях, — сказала Марына Леанідаўна. — Бо ў свой час, вучачыся на мастацка-графічным факультэце ВДУ ім. П. Машэрава, абараніла дыпломную працу па ткацтву, мяне ў паездках больш за ўсё цікавіла тэма тэкстылю. Мне кінулася ў вочы тое, што акрамя ручнікоў, якія распаўсюджаны па ўсёй Беларусі, на Гарадоччыне сустракаліся арыгінальныя кісейныя вырабы.

Майстроў, якія валодаюць падобнай тэхнікай, Марына Гушча не змагла адшукаць. Адправілася на спецыяльныя курсы па ткацтву, але толькі праз пяць гадоў практыкі ёй удалося асвоіць кісейны кірунак.

— Дадзены від ткацтва лічыўся згубленым і быў унесены ў спіс помнікаў беларускай культуры. Мне вельмі дапамагла ў засваенні кісеі тагачасны дырэктар музея Кацярына Уверская. Яна паспела заспець старажылаў, якія займаліся ім, — адзначыла Марына Леанідаўна. — Такім чынам я даведалася, што існавала тры разнавіднасці гэтага рамяства. Авалодаўшы імі, прадставіла свае ручнікі на конкурсе, які праходзіў у рамках Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску — 2001». Журы высока ацаніла працу, прысудзіўшы мне Гран-пры.

Марына Гушча лічыць, што сярод жанчын вырабы кісеі будуць заўсёды актуальныя, таму што маюць перавагі перад карункавымі аналагамі.

— У працэсе працы за станком атрымліваюцца розныя па велічыні квадраты і прама-кутнікі. Гэта зачаравальная манахромны геаметрыя, гульня памерамі, — падкрэсліла яна. — Нам разам з калегамі важна было адрадзіць і захаваць спадчыну продкаў. Таму мы вывучылі музейныя фонды, знайшлі дзясяткі ручнікоў, таксама выраблялі іх самі. У выніку ў 2013 годзе кісею выкраслілі са спісу помнікаў і прызналі культурнай спадчынай краіны.

Дзякуючы гарадакчанам аб гэтай тэхніцы даведаліся не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Іх кісейныя экспазіцыі прадстаўляліся на выставах у Расіі, Польшчы, Прыбалтыцы і Турцыі і нязменна выклікалі захапленне ў публікі і спецыялістаў.

— У адрозненне ад класічнага народнага ткацтва, які выкарыстоўвае старажытныя арнаменты і іншай сімвалізм, кісейнае можна ўжываць у вырабе паўсядзённых рэчаў, а не толькі пры правядзенні нейкіх святаў або абрадаў, — адзначыла Марына Леанідаўна. — Каб больш шырока развіваць кісею, прасоўваць яе ў масы, вырашылі папрасіць дапамогі ў дзяржавы. У бягучым годзе нам выдзелілі грант прэзідэнта Беларусі. Будуць закуплены дадатковыя станкі і іншае абсталяванне, праведзены майстар-класы. Ужо прайшлі два практычных курсу на Віцебшчыне, адзін — на Магілёўшчыне. Гэты кірунак можа стаць брэндам Гарадоччыны. Таксама пра яго павінны ўспомніць нашы суседзі з Лёзненшчыне і Шуміліншчыне, дзе ў старажытнасці займаліся такім ткацтвам.

**Эдуард Каралевіч**
**http://vitvesti.by**

ЗДАРЭННЕ

# ПАТАНУЎ ПЕНСІЯНЕР

**У Гарадоцкім раёне раніцай 8 лютага вадалазы дасталі з возера Езярышча 60-гадовага пенсіянера: ён праваліўся ў палонку, паведамляе тэлеканал «Віцебск».**

Мужчына знаходзіўся прыкладна ў 50 метрах ад берага. Выратаваць яго не ўдалося.

Нагадаем, у Глыбокім 10 лютага мужчына ішоў на працу па возеры - і праваліўся пад лёд. Пацярпелага шпіталізавалі з пераахаладжэннем.

Забарона выхаду на лёд на вадаёмах вобласці дзейнічае з пачатку снежня 2019 года. З-за цёплай зімы ледзяного покрыва на рэках і азёрах доўгі час не было, а зараз яго таўшчыня не перавышае 4-5 см.

Супрацоўнікі МНС і ТРСВАД рэгіёну ў чарговы раз перасцерагаюць людзей ад выхаду на тонкі лёд.

**Тут. бай**
**Пераклад на родную мову рэдакцыі сайта**

НАША СЛОВА

# ПА ЖЫЦЦІ З РОДНАЙ МОВАЙ КРОЧЫЦЬ

**Беларуская мова — гэта скарб нашага народа, якім варта ганарыцца. Пакуль мовай карыстаецца хоць адзін чалавек, яна існуе. Асобую павагу заслугоўваюць настаўнікі, пісьменнікі, носьбіты мовы. Напярэдадні святочнай даты мы завіталі да Людмілы Анатольеўны Фірсавай, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сярэдней школы № 2 г. Гарадка, каб даведацца пра яе выбар прафесіі.**

*— Людміла Анатольеўна, чаму вы абралі менавіта беларускую мову? Што паўплывала на ваш выбар?*

— Я марыла стаць настаўніцай з дзяцінства. Усе гульні былі звязаны са школай, у той час гэта прываблівала. Мне блізка вясковае жыццё, таму што ў летні час я адпачывала ў дзядулі і бабулі. Усе святы адзначаліся ў беларускіх традыцыях, што таксама запомнілася. А яшчэ на мой выбар паўплывалі добрыя настаўнікі. Марыя Іванаўна Верціхоўская пакінула глыбокі адбітак у сэрцы, прывіла любоў і павагу да матчынай мовы. Нягледзячы на добрае веданне рускай мовы, я выбрала беларускую. Падчас майго паступлення ў грамадстве шмат увагі надавалася роднай мове, гэта падштурхнула мяне зрабіць свой выбар.

*— Якія выкладчыкі сталі добрым прыкладам для вас?*

— Я вучылася на завочным аддзяленні ў Віцебскім інстытуце імя Кірава. Адразу ўспамінаю Анатоля Канапельку, паэта, выкладчыка, яго цікавыя лекцыі, незабыўныя разважанні. Вучыцца мне падабалася, тэарэтычныя веды, набытыя ў інстытуце падчас сесій, давалі адказы на пытанні ў педагагічнай дзейнасці.

*— Якія творчыя моманты прысутнічаюць у вашай працы?*

— Я люблю далучаць дзяцей да беларускай мовы, каб яны чулі яе, разумелі. Я імкнуся правесці ўрокі запамінальна, з цікавымі фактамі, віктарынамі, праглядам фільмаў, створаных на аснове беларускіх твораў. Традыцыйнымі сталі паездкі ў тэатр, на экскурсіі ў беларускія гарады, музеі, па гістарычных мясцінах. Пра гэта сведчаць шматлікія фотаздымкі з конкурсаў, турпаходаў, канцэртаў, дзе актыўна прымалі ўдзел мае вучні і іх бацькі.

*— У чым сакрэт вашага прафесійнага майстэрства?*

— Галоўнае — шчырая любоў да дзяцей і сваёй справы. Я заўсёды з адкрытай душой іду да вучняў, яны гэта адчуваюць. Я хачу, каб яны сталі не толькі інтэлектуальна развітымі, але і былі адаптаваныя ў грамадстве, не цураліся роднай мовы і ганарыліся ёй. Прыемна, што некаторыя мае вучні таксама абралі шлях настаўніцтва, атрымалі філалагічную адукацыю. Няхай яны будуць шчаслівыя.

*— Якім вам бачыцца сучаснае становішча беларускай мовы?*

— Добра, што Дзень роднай мовы ў нашай краіне святкуецца, ён вяртае нас да вытокаў, прымушае задумацца над статусам мовы, яе развіццём. Калісьці Францішак Багушэвіч трапна сказаў: «мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая». У школе 21 лютага мы плануем шэраг мерапрыемстваў, і, безумоўна, будзем размаўляць па-беларуску. Таму мы рыхтуем розныя тэматычныя імпрэзы: інсцэніраваныя беларускія казкі, паэтычныя вечары, музычныя пастаноўкі і г. д. Пакуль існуе зацікаўленасць дарослых і дзяцей, ініцыятыва і творчасць, родная мова не будзе забытая.

*— Людміла Анатольеўна, што вы пажадаеце аматарам беларускай мовы і ўсім нашым чытачам?*

— Заставайцеся беларусамі. На маю думку, мы самая лепшая нацыя, бо беларусы адкрытыя, шчырыя, гасцінныя. Усе лепшыя характарыстыкі можна аднесці да нашага народа.

**Юлія ПРЫШЧЭПА**
**"Гарадоцкі веснік"**

ГАНДАЛЬ

# КРАМА НІЗКІХ КОШТАЎ

**У Гарадку адкрылася яшчэ адна крама «Фрэгат» — крама нізкіх коштаў.**

Гэтая крама прадуктаў размешчана на пачатку вуліцы Сабалеўскага ў былым будынку крамы Гарадоцкага райспажыўсаюза, які зараз праходзіць стадыю банкрутства. Новая крама ў гэтым мікараёне з'яўляецца другой крамай з сістэмы «Фрэгат», які размешчаны на нулявым паверху Гарадоцкай аптэкі па вул. Савецкай.

Сярод гарадоцкіх спажыўцоў гэтая крама адзначаецца невысокімі коштамі рыбы, бакалеі і іншых прадуктаў, а таксама правядзеннем акцый продажу прадуктаў па нізкім цэнах.

Таксама на паліцах прадстаўлены розныя від віды мукі, крупаў, кандытарскіх вырабаў і г.д.

Ці вытрымае канкурэнцыю гэтая крама ў мікараёне прыватных дамоў і каля шматкватэрных дамоў пакажа час.

Ранейшыя спробы гандляваць у гэтай райспажывецкай краме сэканд-хэндам атрымаліся безвыніковымі.

**Л. Антонаў**

"ТАЛЕНТ ГОДА"

# "ФОРУМ" СТАЎ ЛАЎРЭАТАМ

**Узорны дзіцячы тэатр «Форум» Гарадоцкай ДШМ стаў лаўрэатам II Міжнароднага ГРАНД-конкурса «Талент года».**

24-25 студзеня ў Мінску прайшоў II Міжнародны ГРАНД-конкурс «Талент года». Гэта быў фінальны конкурс-падвядзенне творчых вынікаў 2019г. для «Эстраднай школы талентаў», сучаснай кампаніі па арганізацыі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў у Беларусі.

«Эстрадная школа талентаў» за мінулы год правяла шмат розных конкурсаў і фестываляў. Гэта і Міжнародны конкурс-фестываль Музыкі свята, Міжнародны конкурс Мая Мара, Міжнародны конкурс Хрустальны васілёк і вядома ж наш рэспубліканскі конкурс Беларускія таленты,

У гэтай школе за год былі тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак і дарослых, якія выступалі, спаборнічалі, бліскалі і здзіўлялі сваімі дасягненнямі ўвесь 2019 год. За год былі ўзнагароджаны сотні лаўрэатаў, дыпламантаў і некалькі дзесяткаў ўладальнікаў Гран-Пры.

Творчыя асобы і калектывы спаборнічалі у такіх намінацыях: вакал, выяўленчае мастацтва, харэаграфія, тэатральнае мастацтва і інструментальнае выканальніцтва. Узрост удзельнікаў склаў ад 3 гадоў і да 64 гадоў

Выступы па ўсіх намінацыях праходзілі ў выдатным канцэртнай зале Мінскага палаца культуры і спорту чыгуначнікаў. Арганізатарамі конкурсу выступала «Эстрадная Школа Талентаў» пры падтрымцы Беларускага саюза музычных дзеячаў.

Найбольшая колькасць канкурсантаў было ў намінацыі вакал, інструментальнае выканальніцтва і харэаграфія.

У намінацыі «Тэатральнае мастацтва» было ўсяго два ўдзельніка . І узорны тэатр «ФОРУМ» Гарадоцкай ДШМ пад кіраўніцтвам Аляксандра Бязгінанава стаў лаўрэатам І ступені.

Віншуем таленавіты калектыў!

**Л. Антонаў**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НЕ НАРОД ДЛЯ ДЗЯРЖАВЫ!

**Галоўным сімвалам новай эры і стаў прыназоўнік «для», што ўклініўся паміж назоўнікамі «дзяржава» і «народ». Гэта яму чалавецтва абавязанае нараджэннем таталітарных ідэалогій.**




На сайце «Незалежнай газеты» 30 студзеня я прачытаў артыкул «Нетаньяху прывёз з Расіі дзяўчыну і любоў выбаршчыкаў». 26-гадовую ізраільцянку завуць Наама Ісахар. У красавіку 2019 года яна была арыштаваная ў транзітнай зоне аэрапорта Шарамеццева і прысуджаная да сямі з паловай гадоў турэмнага зняволення за захоўванне 9,5 грама гашышу. У дзень візіту ізраільскага прэм'ера дзяўчына была памілаваная і паляцела дадому на яго самалёце.

Далей цытата: *«Кіраўнік Цэнтра блізкаўсходніх даследаванняў ІМЭМА імя Я.М. Прымакова РАН Ірына Звягельская ў размове з «Незалежнай газетай» адзначыла, што ў Ізраілі ўважліва сачылі за візітам Нетаньяху ў Расію. «Гэта звязана і з блізкаўсходняй зздзелкай, і яшчэ больш — са "справай Ісахар". Тое, што Нетаньяху змог яе вярнуць дадому, вядома, дадасць яму балаў падчас перадвыбарчай кампаніі», — сказала яна».*

Парламенцкія выбары ў Ізраілі адбудуцца 12 сакавіка. Не ў прыклад «Краіне пад белымі крыламі», палітычнага адзінства на Зямлі Запаветнай не назіраецца. Асноўная барацьба чарговым разам разгорнецца паміж блокам «Кахоль-Лаван», што ўзначальвае Бені Ганц, і правай партыяй «Лікуд» Нетаньяху. Паводле апытанняў, «Лікуд» можа разлічваць на 58 месцаў, «Кахоль-Лаван» — на 55.

Сіла Беларусі — у адзінстве. Прынамсі, у гэтым нас рэгулярна пераконвае дзяржаўная прапаганда. Наадварот, сіла Ізраіля — у канкурэнцыі. «Справа Ісахар» была б немагчымая ў краінах, у якіх парламенты не з'яўляюцца месцам для дыскусій. Складана сабе ўявіць, каб адзіны палітык (АП) ці яго расійскі калега асабіста заняліся б лёсам шараговага грамадзяніна, ды яшчэ асуджанага за наркотыкі.

Ну і цаца! І яе яшчэ за дзяржаўны кошт, і не эканом-класам, а на самалёце прэм'ера дадому даставілі. Але коштам авіяпералёту выдаткі ізраільскіх падаткаплацельшчыкаў не абмяжаваліся. Захавальнікі духоўных скрэпаў у якасці ўмовы памілавання грамадзянкі Ізраіля высунулі перадачу Расіі Лізавецінскага падворка ў Ерусаліме (гістарычны будынак у комплексе Рускіх пабудоў, плошчай 4 612 м²). І гэта ўмова была выканана!

**«Гэта ключавое»**

Мне ўжо неаднаразова даводзілася нагадваць, што дзяржаву для народа не варта блытаць з дзяржавай народа. Якая паміж імі розніца? Фармальна — нязначная: у першым выпадку прыназоўнік «для» прысутнічае, у другім — яго няма. Пра што, здавалася б, тут весці размову!

А між тым — розніца прынцыповая. У першым выпадку перад намі тыповая дзяржава бюракратаў, якія, зыходзячы з асабістых інтарэсаў, самастойна вызначаюць, колькі і на якіх умовах выдзяляць народу ад грамадскага пірага. Між іншым, ад таго самага пірага, які народ і выпякае.

Сваю ж долю таго пірага чыноўнікі ад народа імкнуцца хаваць. Варта прызнаць, што робяць яны гэта паспяхова. У прыватнасці, у Беларусі заканадаўчымі актамі не прадугледжаная магчымасць распаўсюджвання інфармацыі пра задэклараваныя даходы чальцоў урада.

А ва ўсіх нашых суседзяў прадугледжаная! Нават у рускіх — тых, што без знака якасці. А нам, відаць, той знак якасці перашкаджае. З ім рана ці позна (хутчэй позна, чым рана. — Рэд.) разбярэмся, аднак ёсць больш важкая прычына, імя якой — справядлівасць.

Калі хто забыўся, Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая прэтэндуе на ролю астраўка сумленнасці і справядлівасці. Не я гэта прыдумаў. Не з маёй адукацыяй і не з маім жыццёвым досведам падымацца да такога ўзроўню абагульненняў.

*«Справядлівасць павінна быць пакладзеная ў аснову ўсіх чалавечых узаемаадносінаў. І дзяржавы з чалавекам у тым ліку»*, — растлумачыў АП сваё разуменне месца справядлівасці ў беларускай мадэлі 3 лютага 2017 года, а для тых, хто не ўлавіў галоўнага, зрабіў важны дадатак: *«Матэрыяльнае становішча дзяржслужачых павінна расці або падаць у адпаведнасці з ростам ці падзеннем жыццёвага ўзроўню нашага насельніцтва. Гэта ключавое»*.

Але прадэклараваць — гэта адно, а рэалізаваць на практыцы — зусім іншае. Вось для таго, каб грамадзяне не заўважалі разыходжанняў словаў са справай, у дзяржаве для народа і адсутнічае закон пра абавязковую дэкларацыю чыноўнікамі (слугамі народа) сваіх даходаў….

**Хавайся ў бульбу**

У пачатку 1990-х гадоў нацыянальна арыентаваныя грамадзяне прапаноўвалі замяніць у Беларусі рублі на талеры, а капейкі — на грошы. Безумоўна, такое аднаразовае дзеянне каштоўнасць асобна ўзятых жыццяў не падвысіла б, але яно стала б важным элементам напрамку, па якім варта было рухацца.

Сёння ж, у поўнай адпаведнасці з пачаткам новай эры чалавечага развіцця, якая стартавала ў 1917 годзе ды так і не завяршылася ў Беларусі, калі і можна казаць пра каштоўнасць чалавечага жыцця, то толькі аднаго.

Менавіта гэтым дзяржаўная прапаганда і займаецца на рэгулярнай аснове. Адзін прыклад: *«Таму найпершай задачай грамадзян-патрыётаў павінна быць пільнасць, якая тычыцца ўсіх праблем падтрымкі А.Р. Лукашэнкі народнымі масамі. Не забяспечыўшы патрэбнай і своечасовай падтрымкі прэзідэнту, мы ўсе разам патрапім у бездапаможнае і жалю вартае становішча, з якога не будзе выхаду на працягу стагоддзяў»* («Рэспубліка», 2005/04/05 №61).

Залатыя словы! Шкада толькі, што ўвасобіць іх у жыццё ў поўным аб'ёме так і не атрымалася. Не верыце? Тым, хто сумняваецца, прапаную звярнуцца да прэс-рэлізу нарады аб першачарговых мерах па забеспячэнні ўстойлівай работы аграпрамысловага комплексу Віцебскай вобласці ад 28 студзеня: *«Багатых людзей нямала. Папрасіце ў іх патрошку, хай адшчыкнуць вам у гэты фонд, разумеючы, што нам трэба сялян ратаваць (вылучана. — Рэд.)»*.

Сяляне — далёка не "ўсе мы". Доля сельскага насельніцтва ў 2019 годзе склала 21,6%, і ўсе яны трапілі ў бездапаможнае і жалю вартае становішча. І іх у тэрміновым парадку неабходна ратаваць. Але ў дзяржавы для народа сродкаў на выратаванне народа няма. Вось і даводзіцца ёй звяртацца да багатых людзей.

Дажыліся! Хавайся ў бульбу. Адно радуе, што бульба на сялянскіх падворках усё яшчэ расце.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# АБВАЛЬНАЕ ПАДЗЕННЕ

**Цягам 2019 года колькасць прыхільнікаў саюзу з Расеяй знізілася з 60,4 да 40,4 %. Пра гэта сведчаць вынікі сацыялагічнага даследавання Беларускай аналітычнай майстэрні Андрэя Вардамацкага.**

Беларуская аналітычная майстэрня правазіла даследаванне ў снежні 2019 года. Сярод апытаных — людзі з розных рэгіёнаў Беларусі, прычым не толькі гарадское, але і сельскае насельніцтва.

Са звестак Беларускай аналітычнай майстэрні вынікае, што цягам 2019 года ў беларускім грамадстве адбылася змена геапалітычнай арыентацыі. Адсотак прыхільнікаў саюзу з Расеяй знізіўся з 60,4 да 40,4 %. Такім чынам, калі заўтра адбудзецца рэферэндум наконт геапалітычнага выбару Беларусі, то прыхільнікі саюзу з Расеяй не змогуць атрымаць абсалютнай большасці галасоў.

3 верасня да снежня 2019 года адбывалася абвальнае падзенне прарасейскіх настрояў: колькасць прыхільнікаў саюзу знізілася на 14,7 % за чатыры месяцы (з 54,8 да 40,4 %). Адначасова ўзмацніліся праеўрапейскія настроі ў грамадстве: колькасць прыхільнікаў уваходжання ў Еўразвяз вырасла з 24,4 да 32 %.

Менавіта ў перыяд з верасня па снежань назіраўся пік інтэграцыйных перамоваў і звязаных з імі пратэстаў. У верасні 2019 года ўрады дзвюх краінаў узгаднілі праект праграмы дзеянняў па паглыбленні інтэграцыі і спіс дарожных мапаў. Цягам кастрычніка-лістапада праходзілі ўрадавыя перамовы наконт зместу мапаў, а ў снежні чакалася (але так і не адбылося) падпісанне гэтых дакументаў на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаваў. Цягам снежня ў Менску і іншых гарадах Беларусі адбылася серыя акцыяў у абарону незалежнасці і супраць інтэграцыі з РФ.

Абсалютная большасць беларусаў — 74,6 % — перакананыя, што Беларусь і Расея мусяць быць цалкам незалежнымі дзяржавамі, але мець сяброўскія дачыненні з адкрытай мяжой, адсутнасцю візаў і мытні. А вось 6,6 % апытаных лічаць, што стасункі з Расеяй не мусяць адрознівацца ад стасункаў з іншымі краінамі, — то бок, павінны існаваць закрытая мяжа, мытня і візы.

За аб'яднанне Беларусі ды Расеі ў саюзную дзяржаву выказаліся 12,8 % рэспандэнтаў, а за ўваходжанне ў склад РФ — толькі 3,7 %.

Кіраўнік Беларускай аналітычнай майстэрні Андрэй Вардамацкі ў інтэрв'ю belsat.eu адзначыў, што зніжэнне прарасейскіх настрояў цягам 2019 года можна падзяліць на два этапы: паступовы (са студзеня да верасня) і абвальны (з верасня да канца снежня).

«Раней такога не было ніколі, — падкрэслівае Вардамацкі, — Прычына тэктанічнага абвалу носіць медыйны характар. Рэч у тым, што змянілася танальнасць вяшчання беларускіх медыяў адносна самой Расеі, а таксама стасункаў Беларусі ды Расеі. Танальнасць набыла больш негатыўны характар».

На думку Вардамацкага, геапалітычныя погляды беларусаў у 2020 годзе працягнуць фармавацца пад уплывам сітуацыі ў беларуска-расейскіх стасунках і танальнасці медыяў пры асвятленні гэтых дачыненняў.

«Паступовы адкат назад магчымы, але гэта будзе дастаткова цяжка зрабіць. Бо назіраецца пэўнае зацвярдзенне трэнду на зніжэнне прарасейскіх настрояў», — дадаў ён.

**belsat.eu**

АРМЕЙСКІ БЛОГ

# ТУШОНКА, БРУДНАЯ ВАДА І «РУССКИЙ ДУХ»

**Як выглядае беларускае войска знутры? Што адбываецца ў войску за высокім плотам? Пра гэта шчыра распавядае былы кандыдат у дэпутаты Аляксей Лазараў, які цяпер праходзіць тэрміновую службу ў Лепельскім раёне.**

**Побыт у войску — не цукар**

Паводле Аляксея, аб камфорце салдатаў аніхто не дбае. З кранаў у частцы цячэ вада ўсіх адценняў жоўтага, а на асабістую гігіену часам застаецца зусім мала часу.

— У цябе ёсць 30 секунд, каб памыць ногі, падпахі, пачысціць зубы і пасціраць шкарпэткі, — наракае Аляксей.

Часам, на водныя працэдуры жаўнерам даюць 5 хвілінаў — пры гэтым, на 10 чалавек усяго адна ракавіна.

— Нішто так не ўмацоўвае баявы дух, як адсутнасць дзвярэй у прыбіральнях. Менавіта там пачынаюцца самыя душэўныя размовы. Адразу ўспамінаецца «На Заходнім фронце без пераменаў», — распавядае Аляксей Лазараў у сваім блогу.

**Ежа часта не самая смачная**

Аляксей даволі часта каментуе ежу, якую даюць жаўнерам у войску. Ён наракае, што салдаты не ядуць цвёрдай ежы, іранізуе наконт мясцовых салатаў, і дзеліцца рэцэптам самай смачнай стравы за тэрмін ягонай службы. Фаварытам хлопца стала... тушонка з «Ролтанам»!

— Цікава, ці ёсць назва у салаты, які складаецца з халоднага пюрэ і лука? — задаецца пытаннем Аляксей.

**У беларускім войску часам пахне «русским духом»**

Аляксей зазначае, што ў войску становяцца добра зразумелымі словы Лукашэнкі пра «фарпост Расеі». На першым тыдні службы ім чытала лекцыю аб веры, шкодзе Майдана і «гомасексуалізму» манашка. Ёсць і традыцыйныя лекцыі аб ідэалогіі ды вечаровы прагляд прагляд беларускіх афіцыйных навінаў. А вось расейскія навіны пасля тўіту Аляксея глядзець перасталі.

*(працяг на стар. 4)*

АРМЕЙСКІ БЛОГ

*(пачатак на стар. №3)*

**Трэба насіць няручную бялізну**

Аляксей правёў падрабязны аналіз: што лепей — бялуга (звычайная вайсковая бялізна) ці тэрмабялізна. У шмат якіх салдатаў, у тым ліку і ў Аляксея, ад парашку, якім сціраюць «бялугу» пачынаецца алергія. Хуткі параўнальны аналіз паказаў — 6:0 на карысць тэрмабялізны.

**Крытыкуеш — прапаноўвай**

У Twitter Аляксей ня толькі фіксуе, што адбываецца ў ягонай частцы, але і дасылае свае прапановы. Ён зазначае, што можна дазволіць карыстацца смартфонамі, зрабіць больш частыя звальненні.

— Дарэчы, чаму б нашым мабільным аператарам не зрабіць які-небудзь тарыф «салдацкі»? Без інтэрнэту, але для званкоў і смс? Пры заробку ў 30 рублёў нам адносна нятанна абыходзіцца мабільная сувязь. Добры быў бы піярход, — прапаноўвае Аляксей.

**Хто такі Аляксей Лазараў?**

Аляксей Лазараў стаў вядомы падчас леташняй выбарчай кампаніі да Палаты прадстаўнікоў. Ён быў сябрам кааліцыі «Моладзевы блок» — аб'яднання актывістаў, якія абаранялі інтарэсы моладзі. Лазараў быў актывістам кампаніі супраць «закону аб адтэрміноўках» #учебаважней.

Хлапец скончыў факультэт радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій БДУ, працаваў праграмістам у адной з кампаніяў-рэзідэнтаў ПВТ. Праз «закон аб адтэрміноўках» пасля сканчэння вучобы і выбарчай кампаніі ён адправіўся ў войска на паўгады. Аляксей служыць у вайсковай частцы ў вёсцы Заслонава Лепельскага раёну. У войску забаронена карыстацца смартфонамі, таму свой блог у Twitter ён вядзе праз СМС. А публікуе допісы адзін з ягоных сяброў.

**Ксенія Тарасевіч**
**Belsat.eu**

НАША СЛОВА

# ЭЙСМАНТЪ І ТАРАШКЕВІЧЪ

**Ёсьць на БТ тыднёвая праграма «Клуб редакторов». Вядзе яе дырэктар Белтэлерадыёкампаніі, г. зн. начальнік таго самага БТ Іван Эйсмант. Чарговы выпуск паказвалі акурат 21 лютага, у Дзень роднай мовы, і я вырашыў паглядзець, як рэдактары дзяржаўных СМІ ў палітычна выверанным дыскурсе праграмы закрануць праблемы беларускае мовы.**

Адразу скажу, што ніводзін зь іх так і не загаварыў па-беларуску ад сябе. Але тэму закрануў-такі сам Іван Эйсмант. І як закрануў! Чытаючы па-беларуску публікацыю Радыё Свабода з мэтай пакрытыкаваць герояў матэрыялу, ён некалькі разоў спыняўся (напрыклад, на назьве Менск), блытаўся — і ўрэшце зьедліва сказаў:

«Тут такой белорусский язык, я даже не знаю, как его назвать. В школе меня другому языку учили ... тут просто столько мягких и твёрдых знаков после каждой буквы (...) Ну это не белорусский язык, это, конечно... не знаю, на каком написано».

Што ж, чалавек, які кіруе нацыянальным мэдыяхолдынгам, ня ведае, як «цьвёрды знак» выглядае і што беларуская азбука ня мае «цьвёрдых знакаў» ні ў якай функцыі, чым значна адрозьніваецца ад расейскай. Гэта веды пачатковай школы, нават не Акадэміі МУС, якую закончыў Іван Эйсмант. (Зрэшты, і там ёсьць абавязковы курс «Беларуская мова. Прафэсійная лексыка» з гістарычным кампанэнтам.)

Але пікантнасьць ня толькі ў гэтым.

«Клуб редакторов» трансьлявалі адразу пасьля галоўнага выпуску навінаў. А там, як звычайна 21 лютага — раз на год — далі трохі месца беларускай мове. Натуральна, «сур'ёзныя» палітычныя і эканамічныя тэмы толькі па-расейску (у нас два родных языка, — ацьверазіла наіўных вядоўца пасьля рытуальнага ўступу па-беларуску). Па-беларуску гучалі прагноз надвор'я, у парадку выключэньня спартовыя навіны, а таксама лірычна-эмацыйныя развагі пра мілагучную, родную і матчыну (і яшчэ дзіўны рэйтынг папулярнасьці беларускіх словаў: 1. гарбата; 2. чамусьці ґаўбец, хоць трэба гаўбе́ц, і 3. шкарпэткі). Але тут жа — экскурс у гісторыю правапісу:

«...Спробы ўнармаваць беларускі правапіс рабіліся яшчэ сто гадоў таму. Аднак першым завершаным варыянтам працы навукоўцы лічаць выдадзеную ў 1918 годзе „Беларускую граматыку для школ" Браніслава Тарашкевіча».

Я, вядома, чакаў, як жа БТ растлумачыць нам, куды і чаму падзеўся спачатку правапіс Тарашкевіча, а потым і ён сам. Але тэму расстраляных мовазнаўцаў і гвалтоўнай «рэформы» правапісу ў 1933 годзе аўтары сюжэту далікатна абмінулі і пераскочылі адразу ў год 1959, калі наркамаўскі зрусыфікаваны правапіс быў крыху скарэктаваны.

У кожным разе — спачатку БТ расказвае гледачам пра станоўчую ролю Браніслава Тарашкевіча і яго правапісу для лёсу беларускае мовы, што чыстая праўда, а праз паўгадзіны галоўны начальнік таго самага БТ Іван Эйсмант зьневажае правапіс Тарашкевіча, адмовіўшы яму ў беларускасьці.

Відома, зьняважыць такім чынам ён спрабаваў найперш Радыё Свабода, якое сьвядома карыстаецца беларускім клясычным правапісам. Але ж абразіў і знакамітага ўкладальніка правапісу, і Янку Купалу, і Максіма Гарэцкага, і Антона Луцкевіча, і Васіля Быкава, і ўсіх выбітных беларусаў, якія пісалі тарашкевіцай.

І ўсё ж самае інтрыгоўнае — як высьвятляецца, Іван Эйсмант ня ведае актуальнага пасылу галоўнай праграмы даверанага яму тэлеканалу... Мо ён і ня ўдзельнічае ў фармаваньні таго пасылу?

**Вінцук Вячорка**
**"Радыё Свабода"**

АЭС

# АТОМНАЯ ЛОВУШКА ДЛЯ ЛУКАШЕНКО

**Ну вот, клещи смыкаются. С одной стороны, Россия отказала Минску в смягчении условий кредита на АЭС. С другой — страны Балтии близки к консенсусу, чтобы заблокировать продажу электроэнергии с этой станции в Евросоюз.**

Когда-то Александр Лукашенко дал отмашку на проект Белорусской АЭС, чтобы ослабить энергетическую зависимость от России. Мол, не понадобится столько газа закупать (ныне 95% электроэнергии в Беларуси вырабатывается за счет российского газа), а излишки электричества соседям со свистом уйдут.

Сейчас, однако, вырисовывается фиаско этого грандиозного замысла по всем статьям.

**Вильнюс всех поставил на уши**

Литва с самого начала стала на дыбы, поскольку АЭС строится (уже почти построена) возле белорусского Островца, в 50 километрах от Вильнюса. Литовцы даже специальный закон приняли, в котором БелАЭС названа угрозой их национальной безопасности.

А теперь вот министр энергетики Литвы Жигимантас Вайчюнас сообщает, что с латвийскими и эстонскими партнерами вырабатывается общая позиция «для создания плана предотвращения импорта в балтийские страны электроэнергии, произведенной в Беларуси».

Раньше Латвия выглядела слабым звеном, вроде как польстилась на электроэнергию с БелАЭС, Эстония тоже не исключала ее покупки. Но вот сейчас в деле противодействия экспорту со станции в Островце три балтийские страны, похоже, консолидировались. 7 февраля на этот счет нашли общий язык их премьеры.

**Москва отказала**

Бойкот со стороны стран Балтии — это одна плюха Минску. С другой стороны, Москва ледяным тоном отказала в просьбе «отложить время начала выплат по кредиту» на АЭС, а также «раздвинуть срок этого кредита и несколько снизить процентную ставку». Такие желания на днях артикулировал первый вице-премьер Беларуси Дмитрий Крутой.

«Одновременно удлинить период использования средств кредита и уменьшить процентную ставку не соответствует финансовой теории, поэтому нужно искать компромиссы в другой плоскости», — ответил 11 февраля заместитель министра финансов РФ Сергей Сторчак.

Как известно, Москва хотела бы добиться от Минска уступок в плоскости «углубления интеграции». Но Лукашенко уперся, не желая, как он выразился, сдавать суверенитет за бочку нефти. Вдобавок наговорил российским партнерам резкостей — типа что они «нас раком поставили по углеводородам», имея в виду задирание цен на энергоресурсы.

Упорство по части суверенитета — это, конечно, хорошо. Но на таком фоне поза с протянутой рукой нелогична. Было бы удивительно, если бы Москва при нынешних терках разогналась пересматривать условия кредита на БелАЭС в сторону смягчения. Напротив, сейчас ее стратегия в том, чтобы посильнее прижать строптивого союзника финансово-экономическими рычагами.

**Вот так «ушли от зависимости»!**

И вот теперь самое время оценить мудрость и прозорливость белорусского руководства. С этой АЭС хотели как лучше, а получилось как всегда.

Между прочим, на стадии выбора подрядчика Минск рассматривал франко-германскую Areva и американо-японскую Westinghouse-Toshiba. Но в итоге предпочли российских братьев. Да, реактор вроде новой модели, но насколько качественно он сделан?

Стремительная технологическая деградация России видна невооруженным глазом. Только второго Чернобыля белорусам не хватало.

С Россией же придется решать вопросы покупки топлива для реактора, переработки радиоактивных отходов. И где гарантия, что при очередном раздоре Москва не прижмет этой зависимостью? Видите, как уперлась с условиями кредита. Причем надежды, что расплатиться помогут барыши от экспорта энергии с БелАЭС, тают в свете жесткой позиции Вильнюса.

Ранее Москва уже перестала давать деньги на рефинансирование взятых прежде Беларусью займов. Это означает, что нужно срочно скрести по сусекам казны и, возможно, расплачиваться за счет золотовалютных резервов. Необходимость отдавать с процентами кредит, взятый на АЭС (а это до 10 млрд долларов), лишь туже затянет финансовую петлю на горле Беларуси.

**БелАЭС — провальный проект**

По ходу оказалось, что белорусское правительство не имеет внятного плана, как использовать чертову тучу дополнительной энергии внутри страны. Теперь срочно придумывают, что бы еще перевести на электротягу. Но это тоже ведь денег стоит. Как и строительство новых линий электропередачи. И еще уйма сопутствующих расходов. Наконец, в гигантскую сумму обойдется со временем вывод станции из эксплуатации.

Кроме всего прочего, оказались испорченными всерьез и надолго отношения с Литвой. В отместку Вильнюс блокирует подписание Приоритетов партнерства Беларуси с ЕС, что мешает формировать институциональную базу сотрудничества с объединенной Европой. В общем, капитальный пролет по всем азимутам.

А самое смешное, что уменьшить потребление газа можно было и без АЭС, начни белорусское руководство в тучные годы нефтяного офшора структурную перестройку экономики. Достаточно было бы избавиться от неэффективных монстров социалистической индустрии, немеряно жрущих те самые российские энергоресурсы.

Но Лукашенко мыслил экстенсивно, в духе экономики старых времен. И сегодня оказался в атомной ловушке.

**Александр Класковский**
**политический обозреватель — для belsat.eu**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.02.2020 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.